№ 45 (3786)

11 чэрвеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## «Народная Воля» апранаецца ў новы касцюм

*Самы прыгожы касцюм, пашыты здольнымі майстрамі, з цягам часу губляе прывабнасць, патрабуе ад гаспадара замены.*

*Так і з газетай. Вось-вось споўніцца 18 гадоў, як на свет з'явілася "Народная Воля". Увесь гэты час яна выдавалася ў чорна-чырвоным варыянце. Многія выданні даўно перайшлі на шматколернасць.*

*Сёння і мы апранаем "Народную Волю" ў новы касцюм. Даспадобы ён ёй ці не зусім — на ваш суд, шаноўныя чытачы. Скажам толькі: гэта пілотны нумар, і ў далейшым з улікам вашых выказванняў, прапаноў магчымы пэўныя змены ў афармленні выдання.*

*Што нас больш за ўсё хвалюе — ці вытрымае рэдакцыя дадатковыя расходы, немінучыя пры пераходзе на шматколерны дызайн газеты? Многае будзе залежаць ад вынікаў падпіскі на другое паўгоддзе. Вось чаму мы пераканаўча просім: не здрадзьце, даражэнькія, "Народнай Волі"! Ад вашай падтрымкі ў многім залежыць лёс газеты, якая вынесла нямала пакут на сваім вяку.*

*Заўважым, падпіска на "Народную Волю" на другую палову 2013 года працягнецца да 27 чэрвеня. Вас чакаюць у любым паштовым аддзяленні і спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку". Калі ласка, не спазніцеся!*

***ВЫ — З "НАРОДНАЙ ВОЛЯЙ", "НАРОДНАЯ ВОЛЯ" — З ВАМІ!***

**Рэдакцыя газеты "Народная Воля".**

ПАЛІТКУХНЯ

## Сяргей Казлоўскі: «У нас лягчэй банк зарэгістраваць, чым партыю...»

"У Беларусі плануецца спрасціць парадак стварэння грамадскіх аб'яднанняў і партый", — прагучала ўчора ў афіцыйных паведамленнях.

Папраўкі ў некаторыя заканадаўчыя законы па пытаннях дзейнасці палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія не так даўно былі прыняты "палатнікамі" ў першым чытанні, павінны будуць спрасціць стварэнне такіх партый і грамадскіх арганізацый. Аб гэтым заявілі прадстаўнікі Міністэрства юстыцыі.

"Народная Воля" пацікавілася ў апанентаў улады, як яны ставяцца да такіх перспектыў.

— Думаю, калі і адбудуцца нейкія змены ў заканадаўстве, то ад гэтага зарэгістраваць партыю лягчэй не стане, — сказаў намеснік старшыні аргкамітэта па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу **Сяргей Казлоўскі**. — Мы чатыры разы падавалі дакументы на рэгістрацыю партыі, і чатыры разы нам адмаўлялі. Заўсёды знаходзілі нейкія дробязі, да якіх можна было прычапіцца. Так што справа тут не ў заканадаўстве. Яно можа змяняцца, але, як мне падаецца, нязменным застанецца сам падыход да палітычных апанентаў, якія хочуць дзейнічаць на легальным полі. Захочуць зарэгістраваць — зарэгіструюць. Не захочуць — нічога не даб'ешся. У нас лягчэй банк зарэгістраваць, чым партыю ці грамадскае аб'яднанне.

**Сяргей ЗАПОЛЬСКІ.**

КАДРЫ

## В Гродненской и Брестской областях новые «глаза и уши» Лукашенко




Вчера Александр Лукашенко назначил:

**Рудого Кирилла Валентиновича** помощником Президента Республики Беларусь;

**Гоборова Дмитрия Дмитриевича** помощником Президента Республики Беларусь — главным инспектором по Брестской области;

**Доманевского Владимира Викторовича** помощником Президента Республики Беларусь — главным инспектором по Гродненской области;

**Коршуновича Павла Ивановича** судьей и председателем Минского городского суда;

**Сулимова Владимира Николаевича** первым заместителем председателя Государственного военно-промышленного комитета

Назначая помощников президента — главных инспекторов по областям, Александр Лукашенко подчеркнул, что намеренно отправляет в Брестскую и Гродненскую области людей, которые не знакомы близко с работой этих регионов, с той целью, чтобы не было круговой поруки, чтобы инспектор никак не был связан с руководством области. "Губернаторы" прекрасно понимают, что помощник президента в области, он же инспектор по вопросам кадров, — это "глаза и уши" президента на конкретной территории", — сказал Александр Лукашенко.

Кстати, что касается должности помощника президента, то **Кирилл Рудый** (на фото) будет отвечать за экономические вопросы. Эту должность Лукашенко доверил молодому доктору наук. Новый помощник родился в 1978 году, еще в 23 года защитил в Беларуси кандидатскую диссертацию, был стипендиатом программы Фулбрайта в США. Перед назначением работал гендиректором ООО "Бел Хуавэй Технолоджис".

АКТУАЛІІ



*Святлана КАЛІНКІНА*

## У Дубліне, Вашынгтоне, Мінску

**Разам з запрашэннем на вячэру да прэзідэнта мы атрымалі толькі адно папярэджанне: помніць пра дрэс-код; не з'явіцца ў шортах, шлёпанцах ці майцы-алкагалічцы. Ніхто не даглядаў нашы сумкі, ніхто не накіроўваў нас прайсці праз металадэтэктар, ніхто нават у нашы пашпарты не зазірнуў. Мы настойліва круцілі галовамі, шукаючы скапленне прэзідэнцкай аховы і, адпаведна, месца кіраўніка дзяржавы. А ён, як высветлілася, сціпла, без аховы, увайшоў у залу і ціхенька прысеў на стульчыку, да часу не прыцягваючы да сябе ніякай асаблівай увагі.**

**Я вам не свае мары пераказваю і не сон у летнюю ноч. Менавіта так усё і адбывалася. Толькі не ў Мінску. Вячэру ладзіў прэзідэнт Ірландыі.**

**У Дубліне праходзіў з'езд Міжнароднай федэрацыі журналістаў. Мне давялося прадстаўляць ціхую Беларусь, але з'ехаліся калегі з усяго свету — і з Судана, дзе вайна, і з Афганістана, дзе баевікі Аль-Каеды, і з Лацінскай Амерыкі, дзе наркакартэлі... Але не правяралі нікога. Прэзідэнт Ірландыі Майкл Хігінс, у мінулым сам паэт, пісьменнік і тэлевядучы, ні аднаго з нас асабіста не ведаючы, тым не менш нас не баяўся.**

**А вось на прэс-канферэнцыю да прэзідэнта Беларусі трэба прыходзіць за дзве гадзіны да пачатку. Звяраюць усіх па загадзя складзеным спісе. Правяраюць, як у аэрапорце, — і сумкі, і карманы, а з тэле- і фотажурналістаў — дык вытрасаюць душу, нешта настойліва шукаючы ў іхняй апаратуры. І гэта пры тым, што пра кожнага журналіста (падкрэсліваю — пра кожнага!), які бярэ ўдзел у такіх мерапрыемствах, прэзідэнцкая служба аховы ведае амаль усё, спісы складаюцца за некалькі дзён да прэс-канферэнцыі, кандыдатаў правяраюць, тэлефоны праслухоўваюць.**

**Не так даўно проста дарогу перайшоў, каб трапіць у адноўлены Купалаўскі тэатр. А зусім нядаўна яму давялося зрабіць некалькі дзясяткаў крокаў у іншы бок ад рэзідэнцыі — у адбудаваны "Прэзідэнт-гатэль". Дык з-за гэтых, так бы мовіць, пары крокаў кіраўніка дзяржавы ўвесь мікраraён перакрылі. Снайперы дзяжурылі на дахах будынкаў, людзі з рацыямі стаялі літаральна праз пяць-дзесяць метраў адзін ад аднаго, машыны "хуткай дапамогі" не маглі праехаць у тутэйшую бальніцу, нават у дварах, якія і выхаду не маюць на "прэзідэнцкі маршрут", ахова несла сваю нудную службу...**

**Ды што тут гаварыць! Ва ўсіх месцах, дзе пабываў Аляксандр Лукашэнка, такія гісторыі раскажуць. І пра тое, што вокны нельга адчыняць, што нельга выходзіць на балкон; распавядуць, як падчас візіту кіраўніка дзяржавы ў тую ці іншую установу пазачынялі людзей па кабінетах ці ўвогуле загадалі не выходзіць на працу...**

**А інаўгурацыя?! Вы бачылі здымкі з інаўгурацыі прэзідэнта ЗША Барака Абамы? Не тое што Вашынгтон, а, здаецца, уся Амерыка была на вуліцы. А прэзідэнт з сям'ёй ішоў праз гэта людское мора, усміхаўся, усіх вітаў... Ішоў не баючыся.**

**А цяпер успомніце здымкі з інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі. Пусты, мёртвы горад, па якім едзе картэж браніраваных машын. Потым — пустая, ачышчаная ад людзей Кастрычніцкая плошча, ганаровая варта і адзінокі кіраўнік дзяржавы з малодшым сынам за руку...**

**Дык чаму так баяцца людзей тыя, хто грамчэй за ўсіх крычыць, што іх абраў народ? Хто і тры, і чатыры, і 24 тэрміны гатовы займаць прэзідэнцкую пасаду, бо "народ не дазваляе сысці"? Чаму найбольшую па колькасці асабістую ахову заводзяць менавіта тыя, каму на выбарах агучваюць нейкія непраўдападобна высокія працэнты падтрымкі выбаршчыкаў?**

**Пытанні — рытарычныя.**

ПРАТЭСТ

## Што змусіла віцебскіх індывідуальных прадпрымальнікаў правесці аднадзённы страйк і хто падштурхоўвае іх да больш радыкальных дзеянняў

6 чэрвеня да 90 працэнтаў гандлёвых кропак на рынках і ў гандлёвых цэнтрах Віцебска былі зачынены. Апушчаныя долу ралеты шасціметровых "гіпермаркетаў" — пратэст кожнага ў асобку і салідарнасць усёй прадпрымальніцкай грамады. І гэта, па словах аднаго з ініцыятараў папераджальнага страйку **Ірыны Яскевіч** (яна, дарэчы, з'яўляецца старшынёй арганізацыйнай групы па ўтварэнні беларускага прафсаюза "Разам"), не было нейкім стыхійным дзеяннем. Іпэшнікі прыпынілі работу, каб прыцягнуць увагу мясцовых і рэспубліканскіх "адказных таварышаў" да сваёй праблемы. А праблема палягае ў тым, што робіцца немагчымым (з 1 ліпеня дакладна) афармленне сертыфікатаў да выканання тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза. Загвздка ў тым, што тэхнічны рэгламент патрабуе наяўнасці сертыфіката бяспекі пэўнага стандарту Мытнага саюза. Калі індывідуальны прадпрымальнік купляе тавар у Расіі, то з таварам атрымлівае і сертыфікат РФ, а дома ўжо неабходна яго пацвердзіць. І гэтая працэдура абыдзецца гандляру ў 1 млн 200 тысяч рублёў. Улічваючы тое, што іпэшнікі купляюць партыі "шмотак" з 5—10 адзінак тавару, то 1 млн 200 тысяч непазбежна пацягне рэзкае падаражанне прадукцыі.

І каму такое "вынаходніцтва" стане "халвою"? Толькі не гандляру, не — тым больш — пакупніку...

*"Мы падлічылі,* — распавяла далей спадарыня Яскевіч, *— каб захаваць мінімальны асартыментны пералік на гандлёвай кропцы плошчай 6 квадратных метраў, неабходна выплаціць за афармленне гэтых сертыфікатаў для выканання тэхнічнага рэгламенту каля 60 млн рублёў".*

Натуральна, прайграюць усе. Чаму? Грамадзяне вымушаны будуць купляць тавары па больш высокіх цэнах, некаторыя тавары наогул знікнуць з продажу. А індывідуальныя прадпрымальнікі са сваімі сем'ямі апынуцца на мяжы выжывання, у іх папросту не будзе ніякіх сродкаў для нармальнага існавання. Далей страціць і бюджэт, бо дзе тыя падаткі ад арміі іпэшнікаў?.. Канечне, павялічацца шэрагі беспрацоўных, абвострыцца сацыяльная сітуацыя ў краіне. Выйграюць хіба што дзяржманапалісты, якія гандлююць таварамі лёгкай прамысловасці: ніякіх жа канкурэнтаў, а як рукі развязаны, то можна і цэны задзіраць, дармо што прадукцыя на парадак горшая за імпартную.

На пытанне, ці падтрымаюць віцебскіх гандляроў іх калегі ў іншых рэгіёнах, лідар пратэстна настроеных іпэшнікаў адказала даволі афарыстычна: "*Калі нехта думае, што яго абміне, пранясе, то не варта цешыць сябе ілюзіяй: пранясе толькі ў выпадку, калі ў аптэцы купіш пурген..."*

*"Мы хочам працаваць,* — кажа яна, *— але пастаўлены ў такія ўмовы, пры якіх з 1 ліпеня наша дзейнасць будзе немагчымай. У нас няма іншага выбару, як прыпыніць сваю дзейнасць*".

Выхад з сітуацыі страйкамаўскае кіраўніцтва бачыць у прызнанні сертыфікатаў дзяржаў — членаў Мытнага саюза на тэрыторыі гэтага ж саюза. Для тавараў іншых краін варта дазволіць ІП праводзіць выпрабаванні (гігіенічную экспертызу) для атрымання пацвярджэння бяспекі тавара ў выглядзе акта гігіенічнай экспертызы прадукцыі вытворцаў — не членаў Гандлёвага саюза. Не будзе гэтага — можа і выбух здарыцца. Вунь туркі такую хвалю нагналі, што ўжо і пра экалогію забыліся. Апетыт прыходзіць ведама калі...

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

## 26-ы, на выхад?

***Алег Пратасаў у бліжэйшы час можа пакінуць пасаду галоўнага трэнера футбольнага мінскага "Дынама".***

Кантракт Пратасава разлічаны да канца 2013 года, аднак, па некаторай інфармацыі, кіраўніцтва клуба вырашыла скасаваць пагадненне датэрмінова. Трэнер гатовы на гэта пайсці пры ўмове выплаты кампенсацыі.

Нагадаем, што пасля першага круга "Дынама" займае 5-ы радок у турнірнай табліцы чэмпіянату Беларусі.

Аб прызначэнні Алега Пратасава настаўнікам "Дынама" стала вядома 8 ліпеня мінулага года пасля таго, як аб гэтым абвясціў дыктар стадыёна "Дынама-Юні" пасля заканчэння матча "Дынама"—"Нёман". Украінец стаў 26-м трэнерам сталічнага "Дынама" з 1999 года, калі старшынёй назіральнага савета клуба стаў бізнесмен Юрый Чыж.

Ходзяць чуткі, што на месца Пратасава можа прыйсці 42-гадовы партугалец Паулу Мануэль Карвалью Соуза. Раней ён гуляў за "Бенфіку", "Ювентус", дортмундскую "Барусію", італьянскі "Інтэр"... У апошні час займаўся трэнерскай работай.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

АНОНС

## Кольца жизни

В сегодняшнем номере многие иллюстрации — известного белорусского мастера фотографии **Юрия ИВАНОВА**. С его разрешения мы открыли его богатейший творческий архив и решили вспомнить прошедшее время с помощью его талантливых, знаменитых на полмира фото, так как, по словам самого мастера, время оставляет главное в истории именно в виде фотографического изображения. Фото, говорит Иванов, срез времени, подобно кольцам спиленного дерева. Источники нынешних сомнений, продолжает он, мы ищем в прошлом. Там же пытаемся обнаружить и ответы. Так что советуем внимательнее вглядеться в фотографии.

Конечно, за каждым фото не просто интересная житейская ситуация, но то, что мы называем "исторический контекст". Поэтому в этом же номере на четвертой полосе вы прочитаете интервью с фотографом Юрием Ивановым (а именно так — не мастер, не фотохудожник, а просто фотограф — он сам себя любит называть). Еще он всякий раз подчеркивает, что никогда не боялся приклеивания ярлыка "лакировщика действительности", потому что работал (и работает) по принципу "не оскорби, не заставляй огорчаться от увиденного". А если вы захотите пролистать архив фотографа самостоятельно, то вот его адрес: http://ivanov.zdymki.org/photo.



**15 мая 1987 года. Съемка проекта "A Day in the Life of the Soviet Union" "Один день из жизни Советского Союза".**

**Американские критики посчитали, что фотография символизировала перестройку. Например, журнал Time напечатал его под названием "Диктатура пролетариата". На самом же деле фотография запечатлела летучку на Минском тонкосуконном комбинате: работницы обсуждают производство с директором предприятия и его главным инженером.**

**Фото Юрия ИВАНОВА.**

ДИСКУССИЯ

*Геннадий БЕСПАЛОВ, заместитель, первый заместитель министра социальной защиты в 1986—2002 годах*

# Ресурс для более высоких пенсий... Где он?

***Руководствуясь принципом "лучше позже, чем никогда", учитывая возрастающие демографические и другие угрозы системе пенсионного страхования, негативно влияющие на ее финансовую состоятельность, что может привести уже в недалеком будущем к невозможности обеспечивать нынешний скромный уровень трудовых пенсий, я решил отреагировать на весьма субъективные отклики на мою статью "Менять ли пенсионное законодательство? Менять!" ("НВ" 20.11.2011 г.). Мне кажется, мои оппоненты прочитали мою публикацию бегло, с предубеждением, особо не вникая в изложенные в ней факты и суждения, а некоторые из них, воспользовавшись возможностью "выпустить пар" в адрес бывшего чиновника, в своей предвзятости пошли даже на откровенные подтасовки и измышления.***

### Кто из нас неправ?

Так, Вадим Голубев из Бреста, процитировав мое утверждение, что *"уже сегодня в Беларуси нагрузка на экономику в виде взносов работодателей на пенсионное страхование (составная часть себестоимости товаров и услуг) одна из самых высоких*", не поставил точку, а, отделив запятой, беззастенчиво **добавил невесть откуда взятые слова:** "*причем 34 процента от общей суммы выплат составляют пенсии привилегированные*". (Забегая вперед, отмечу: в общей численности пенсионеров органов по труду и соцзащите доля получателей чиновничьих пенсий в истекшем году составляла 0,5%.)

Пенсионер из Бобруйска Н.А.Липунов написал: "***он*** (т.е. я. — **Г.Б.**) ***предлагает ввести дополнительные бонусы***", оценив такое "предложение" восклицанием: "***Наивный подход!***" Тем самым оппонент перевернул все с ног на голову. Ведь в своей статье я не только **не предлагал, а, наоборот, критически отнесся к** обнародованной в государственных СМИ **идее повышения бонусов** при отказе от получения пенсии в период работы. Прежде всего в связи с уверенностью в очевидной невостребованности нашими пенсионерами такой "премии", даже при ее прогрессивном увеличении. В статье, в частности, отмечалось, что четырнадцатилетний опыт применения нормы законодательства, предусматривавшей повышение пенсии по возрасту на 1% заработка за каждые два месяца работы без получения пенсии (6% за год), показал, что подавляющее большинство наших граждан, приобретя статус пенсионера, при наличии возможности продолжить работу предпочитает получать пенсию в дополнение к зарплате, исходя из соображения *"лучше синица в руках, чем журавль в небе"*, тем более в условиях заметной инфляции и девальвационных ожиданий. Именно такое, весьма пассивное отношение работников, достигающих пенсионного возраста, к возможности в будущем получить повышенную пенсию, собственно говоря, и подтолкнуло меня высказать свои суждения в статье, которую я озаглавил "***Изменения в пенсионном законодательстве... Будет ли эффект?".*** Редакция одной из государственных газет, в которой была опубликована информация Минтруда и соцзащиты о готовящемся проекте соответствующего указа президента, взяла статью, однако печатать ее не стала, положив под сукно (надо полагать, по причине изложенного в ней альтернативного мнения). В связи с этим статья была предложена "Народной Воле", опубликовавшей ее под другим заголовком, который, на мой взгляд, в силу своей категоричности не вполне согласуется с аналитическим характером публикации.

*(Окончание на 2-3-й стр.)*

ПАЛІТКУХНЯ

# Што святкавала Партыя БНФ?

Сябры Партыі БНФ у мінулую пятніцу адзначылі яе 20-годдзе. Усё было, як на сэйшне з нагоды нейкага прафесійнага свята. Сказалі адзін аднаму добрыя словы, пасля ўрачыстых прамоў разрэзалі святочны торт з выявай бел-чырвона-белага сцяга. Праўда, гэтая акалічнасць выклікала нямала негатыўных водгукаў: наш пакутны сцяг ды нажом на кавалкі... Але што зроблена, тое зроблена. Больш здзівіла іншае: тых людзей, якія ў грамадскай свядомасці з'яўляюцца "брэндам" Беларускага Народнага Фронту, на імпрэзе заўважана не было. Чаму?

Гэтае пытанне мы і задалі цяперашняму лідару Партыі БНФ **Аляксею Янукевічу**.

— *Некаторых мы запрашалі, але яны адмовіліся прыйсці,* — расказаў спадар Янукевіч. — *Прынамсі,* ***Лявон Баршчэўскі*** *заявіў, што гэтае пытанне палітычнае, бо дата сама па сабе нязначная. Пры гэтым ён напісаў у лісце, што юбілейная дата БНФ наперадзе — у кастрычніку споўніцца 25 гадоў з моманту ўтварэння Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".*

...У мяне, як і ў дзясяткаў тысяч людзей, офіс Партыі БНФ асацыіруецца са старым адрасам — вуліца Варвашэні, 8. Немагчыма забыцца пра натоўп людзей ля ганка Управы, бо ў памяшканні не хапала месца для ўсіх жадаючых, пра дыскусіі, падчас якіх вырашаліся стратэгічныя і тактычныя пытанні, пра просьбы праветрыць памяшканне, бо так шмат прысутных, што няма чым дыхаць... У цяперашняй сітуацыі нават не верыцца, што апазіцыйная партыя магла мець офіс у самым цэнтры сталіцы і ў гэтым офісе не сціхала бурлівае жыццё.

Але так было. У свой час арандаваць офіс удалося дзякуючы намаганням дэпутата гарсавета **Галіны Вашчанкі**. У гэтай справе ёй дапамог тагачасны дэпутат Вярхоўнага Савета **Зянон Пазьняк**. Ці маглі яны тады ведаць, што стануць мужам і жонкай, а ў 1996-м давядзецца тэрмінова з'язджаць за мяжу?

**Юрась Беленькі**, які быў адным са стваральнікаў Беларускага Народнага Фронту, узгадвае:

— *Тады гэта вісела ў паветры — ужо былі створаны Народныя франты ў балтыйскіх рэспубліках. Чаму менавіта Фронт, а не партыя? Бо з-за КПСС тады асацыяцыя са словам "партыя" ў народа была адмоўная. І гэта пры тым, што грамадства вельмі палітызавалася. Стала вядома праўда пра камуністаў, пра рэпрэсіі, у народа была прага свабоды, яе чакалі, як глытка паветра. Безумоўна, менавіта Зянон Пазьняк быў лідарам Фронту. Ён зрабіў прарыў, ён аб'ядноўваў людзей. Хаця калі прыгадваць тыя падзеі, то нельга не сказаць, што тады каля Усходніх могілак улады хацелі ўжыць не толькі газ, але і рыдлёўкі, у Мінску мог ажыццявіцца тбіліскі варыянт. А колькі правакатараў было! Тым не менш удалося не паддацца на правакацыі, бо публіка была вельмі прыстойная. Вадамёты падагналі, але Пазьняк павёў людзей і зрабіў тое, што патрэбна было зрабіць. Беларускі Народны Фронт быў створаны рушаннем душ соцень тысяч людзей — гэта іх мары, спадзяванні, прага свабоды. Тады трэба было мець яшчэ якую мужнасць, каб яго ствараць, каб удзельнічаць у гэтым!*

Многія памятаюць **Валерыя Буйвала**, які дзяжурыў амаль штодня ў холе Управы. Ён, праўда, лічыць 20-годдзе ўтварэння Партыі БНФ псеўдасвятам і тлумачыць гэта наступным чынам:

— *20 гадоў таму партыя ўтварылася з чыста фармальнай прычыны: тады была пастанова, што рухі не могуць удзельнічаць у выбарах. Вось і вырашылі фармальна зарэгістраваць партыйную структуру,* — расказвае Валерый Буйвал. — *Практычна ўсе фронтаўцы тады напісалі заяву аб уступленні ў Партыю БНФ. Але гэтая дата абсалютна штучная. Сапраўдны юбілей будзе ў кастрычніку, бо рух стварыўся менавіта тады. 19 кастрычніка 1988 года быў створаны аргкамітэт, а 30 кастрычніка сябры аргкамітэта заклікалі грамадскасць сабрацца каля Усходніх могілак. Была творчая атмасфера, надзеі, спадзяванні... Але час ішоў, пачаліся спрэчкі, непаразуменні. Ды і спецслужбы рабілі ўсё, каб аслабіць гэтую структуру, бо бачылі ў ёй вялікую пагрозу. БНФ паслядоўна выступаў за незалежнасць краіны і ўваход яе ў еўрапейскі кантэкст.*

Дык чаму ж сённяшняе кіраўніцтва Партыі БНФ, якое асуджала ўлады за штучную прывязку Дня Незалежнасці Беларусі да даты вызвалення Мінска, само вырашыла адзначыць 20-годдзе сваёй партыі?

Аляксей Янукевіч на гэты конт адказаў:

— *Само па сабе 20-годдзе партыі — гэта не такая ўжо і нязначная дата. Мы вырашылі, што гэта будзе вельмі добры старт, які прыцягне ўвагу грамадскасці да святкавання 25-х угодкаў руху "Адраджэньне". У нас запланаваны шэраг мерапрыемстваў. Асноўныя, зразумела, адбудуцца ўвосень. Але мы вырашылі, што адзначыць цяпер 20-годдзе партыі будзе нармальным.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

КОЛЬЦА ЖИЗНИ



Житель Мстиславля кавалер трех орденов Славы Михей Митрофанович Минченко со своими внучками. 1981 год.

Фото Юрия ИВАНОВА.

ЭКАНОМІКА

## *На «Камунарцы» абяцаюць заробак у тысячу долараў*

На прадпрыемстве распрацавана праграма мадэрнізацыі на 2013—2015 гады.

У рамках праграмы ў мадэрнізацыю кандытарскай фабрыкі плануецца ўкласці 387 млрд рублёў, паведаміў на аператыўнай нарадзе ў Мінгарвыканкаме генеральны дырэктар прадпрыемства **Іван Данчанка,** які, як вядома, быў прызначаны на гэтую пасаду пасля гучнага леташняга скандалу, калі "Камунарка" фактычна была нацыяналізавана.

Іван Данчанка заявіў, што зараз больш за палову магутнасцяў прадпрыемства арыентавана на выпуск таннага асартыменту. А насельніцтва патрабуе шакалад і цукеркі вышэйшых гатункаў. Па словах кіраўніка фабрыкі, каб закрыць патрэбнасць у такой прадукцыі ўнутранага рынку, а таксама у 3,3 раза нарасціць экспарт (да 35 млн долараў у год) і ў 2 разы аб'ём вытворчасці, распрацавана праграма мадэрнізацыі на 2013—2015 гады. Валавая дададаная вартасць на аднаго работніка павінна павялічыцца з 26 тысяч долараў да 44 тысяч долараў, зарплата — да тысячы долараў у эквіваленце.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# «Королева цирка» снова под следствием



*Накануне выходных молнией облетела новость: в отношении директора Белгосцирка Татьяны Бондарчук возбуждено уголовное дело. Она уже потеряла должность и может лишиться свободы на срок до 10 лет.*

Шокирующая информация мгновенно стала сенсацией. По словам самой Татьяны Бондарчук, об уголовном деле она узнала едва ли не последней. Меру пресечения в отношении нее не избирали, официально бывший руководитель цирка находится на больничном. Между тем, согласно сообщениям Следственного комитета, должность директора Татьяна Бондарчук больше не занимает.

Как сообщили "Народной Воле" в цирке, сейчас исполняющим обязанности руководителя является **Сергей Владимирович Медведев**. Интересный факт: об этом человеке нет ни одного упоминания на официальной странице Белгосцирка в сети. Не удивительно, ведь на эту должность его назначили "со стороны", раньше он был заместителем начальника управления культуры Мингорисполкома.

Не делали никаких официальных заявлений и родные Бондарчук. Сын Татьяны Николаевны **Серж Бондарчук**, являющийся главным режиссером Белгосцирка, от комментариев отказался.

*"Вам лучше позвонить в приемную цирка, думаю, там смогут более квалифицированно ответить на ваши вопросы. Сам я не в состоянии"*, — ответил на телефонный звонок артист.

Между тем на своей странице в соцсети Серж написал, что *"только и ждет победы"* (Just waiting Victory). Многие люди поддержали его высказывания и пожелали скорейшего разрешения щекотливой ситуации.

А вот супруга главного режиссера — артистка цирка и скандальная телеведущая **Анна Бонд** — более скупа в проявлении эмоций. На своей странице она выложила фотоотчет с вечеринки в честь открытия модного ночного клуба, а мужу послала изображения умильных котят.

Рядовые сотрудники цирка уверяют, что работа не останавливается ни на минуту. Каким бы шокирующим для них ни было известие о возбуждении уголовного дела в отношении их бывшего руководителя, шоу должно продолжаться.

*"С какой стати нам отменять нашу программу?* — удивленно отреагировали в билетных кассах цирка. — *Это совершенно невероятное предположение! Цирк всегда будет выполнять взятые на себя обязательства"*.

На этот раз дело против бывшего директора цирка возбуждено по материалам Главного управления по борьбе с экономическими преступлениями Министерства внутренних дел и Комитета госконтроля Беларуси. Руководителя с 16-летним стажем подозревают в злоупотреблении служебными полномочиями. Решение о возбуждении уголовного дела было принято после длительной проверки. С чем именно она была связана, правоохранители не сообщают. Напомним, три года назад завершилась широкомасштабная реконструкция исторического здания Белгосцирка. На восстановление главного здания и строительство новых помещений были выделены весьма серьезные средства.

Если расследование Следственного комитета даст положительные результаты, Татьяне Бондарчук может грозить от 3 до 10 лет лишения свободы с конфискацией имущества.

ТОЛЬКО ФАКТЫ

## Свои люди и исчезающие взятки

Отметим, что это не первое громкое дело Татьяны Бондарчук. За 42 года работы в цирке она уже попадала под прицел правоохранительных органов. В апреле 2000 года ее обвиняли в получении взятки, но через месяц дело переквалифицировали, а после и вовсе прекратили. Такой благоприятный исход связывали с заступничеством ее родственника — бывшего заместителя руководителя Администрации президента **Владимира Заметалина**.

Среди знакомых и товарищей Татьяны Бондарчук много и других влиятельных персон. Два года назад фееричное шоу в честь ее 60-летнего юбилея посетили бывший министр культуры **Павел Латушко**, бывший замглавы Администрации президента **Наталья Петкевич** и "мэр" Минска **Николай Ладутько**.

**Мария МАЛЕВИЧ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## «Из цирка уволили пять человек...»

*Сотрудник Белгосцирка на условиях конфиденциальности рассказал "Народной Воле", как в цирке восприняли новость о том, что в отношении Татьяны Бондарчук возбудили уголовное дело.*

— Об этом стало известно в минувшую пятницу, — сообщил собеседник. — Тогда же все узнали, что Татьяна Николаевна уволена со своей должности. Но ее на работе не было, она находилась на больничном.

**— Возможно, Татьяна Бондарчук, когда уходила на больничный, уже о чем-то догадывалась?**

— Не знаю, но, насколько мне известно, кроме Бондарчук уволены еще заместитель директора, главный бухгалтер, бухгалтер и юрист-консультант.

**— Увольнения, уголовное дело... Это для сотрудников цирка было неожиданностью?**

— Все просто в шоке! Татьяна Николаевна столько лет отдала цирку, это был ее второй дом. Если контрольные органы что-то и нашли, возможно, это какое-то досадное недоразумение. Но о подробностях дела никто не знает.

**— Сколько у вас проводилась проверка?**

— Кажется, около двух месяцев.

**— На работе все эти скандалы не отразятся?**

— Не думаю. Сейчас у нас началась программа "Слоны в Минском цирке", все идет по накатанной... Исполняющим обязанности директора назначен Сергей Медведев из управления культуры Мингорисполкома. Временно или нет? Мне неизвестно. Но с утра в понедельник он был уже на рабочем месте...

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

# Ресурс для более высоких пенсий...

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Еще один оппонент — В.К.Дручак из Пинска — в мой адрес пишет: *"При средней продолжительности жизни белорусских мужчин 62 года он* ***предлагает*** *повысить возраст выхода на пенсию и при этом* ***утверждает****, что это дополнительный фактор увеличения продолжительности жизни"*. Во-первых, показатель средней продолжительности жизни белорусских мужчин, указанный оппонентом, это отсебятина, то есть не что иное, как дезинформация читателей "Народной Воли". Во-вторых, несмотря на убежденность в том, что для обеспечения устойчивости пенсионной системы и достойных пенсий нашим согражданам, утратившим возможность продолжения работы, без повышения пенсионного возраста не обойтись, в своей статье я ничего не предлагал и ничего не утверждал. В ней лишь приводились соответствующие показатели статистики, информация о реализованных и осуществляемых программах повышения пенсионного возраста в других странах, сопоставлялись и анализировались отдельные факты. Вот только несколько цитат из моей статьи, касающихся статистических данных: (1) *"...показатель средней продолжительности жизни* ***при рождении*** *(определяется продолжительностью жизни всех умерших,* ***включая младенцев****) за 2010 год составил* ***для женщин 76,5 года****,* ***для мужчин — 64,6*** *(...) с тенденцией роста как женского показателя, так и мужского"*; (2) *"... у наших сограждан, достигающих пенсионного возраста, оставшаяся продолжительность жизни, а значит, и период получения пенсии, в среднем составляет для женщин 24,6 года, для мужчин — 14,2 года"*; (3) *"...в связи с более ранним наделением наших граждан статусом пенсионера общий (для обоих полов)* ***среднестатистический период получения пенсии по возрасту в Беларуси*** *(свыше 20 лет, с сохраняющейся тенденцией роста)* ***больше, чем в развитых странах.*** *А ведь именно этот показатель является основным инструментом расчета пенсионной нагрузки на экономику, а значит, и уровня пенсий. То есть чем дольше пенсионный период, тем больше средств требуется для финансирования пенсий"*.

Вынужден категорически возразить Н.А.Липунову и В.К.Дручаку. Первый, как он пишет, *"давно уже пенсионер"*, безосновательно компрометирует государственную статистику, называя ее *"лукавой"*. Второй, за плечами которого 80 лет и солидный пенсионерский стаж, на фоне фактического и прогнозируемого увеличения доли пенсионеров по отношению к численности работников, формирующих пенсионный фонд, удивил своим безапелляционным пессимистическим суждением: *"скоро некому будет вообще получать пенсию"*. В то время как **Минтруда и соцзащиты констатирует**: *"В республике отмечается рост количества пенсионеров —* ***впервые за многие годы*** *число получателей пенсий в органах по труду, занятости и соцзащите превысило 2,5-миллионный рубеж и составило на 1 января 2013 года 2 млн 512,2 тыс. человек. (....) повышается и удельный вес пенсионеров — этот показатель уже приближается к 27%"*.

Относительно связи продолжительности жизни с профессиональным долголетием, а также пенсионного возраста для женщин приведу соответствующие цитаты из моей статьи: а) *"... чем дольше человек сохраняет трудоспособность, тем дольше он живет. Иначе говоря, профессиональное долголетие определяет долголетие вообще. И в этом смысле* ***повышение пенсионного возраста — дополнительный фактор увеличения продолжительности жизни";*** б) *"****Пенсионный возраст, безусловно, надо повышать (....) современных женщин в 55 лет пенсионерами называть неприлично".*** Эти слова принадлежат не мне, как пишет В.К.Дручак. Они сказаны видными белорусскими учеными, соответственно, доктором медицинских наук, профессором Владимиром Сытым и доктором социологических наук, профессором Людмилой Шахотько. Разумеется, что в контексте сказанного относительно влияния профессионального долголетия на долголетие вообще названные ученые, конечно же, подразумевали посильный труд. (**Справка**: по состоянию на начало текущего года работало 585 тысяч пенсионеров, или 23,3%, а в возрастной категории от 65 до 69 лет — 17%.)

Еще раз хочу подчеркнуть: целью моей статьи от 20.11.2011 г., опубликованной в "Народной Воле", было желание хотя бы фрагментарно поделиться с читателями увиденным и услышанным об опыте развитых и других стран по модернизации своих пенсионных систем и шагах по обеспечению граждан достойными пенсиями, а также информацией о суждениях отечественных ученых и экспертов по вопросам, касающимся повышения эффективности пенсионной системы Беларуси и рационального использования располагаемых ею средств. Относительно же заимствованного мною у профессора Владимира Сытого суждения *"...именно на первые годы после выхода на пенсию приходится всплеск смертности среди представителей сильного пола"*, спекулятивно вырванного Н.А.Липуновым из контекста статьи, приведу предшествующие этому суждению слова: *"Не секрет, что для многих — и женщин, и мужчин — прекращение работы в 55/60 лет является сильным стрессом, как по причинам психологического характера, так и в связи с потерей дохода:* ***при относительно высокой предпенсионной зарплате он падает в 3—4 раза.*** *Ведь далеко не каждый в состоянии смириться с резко изменившимся материальным положением и новым социальным статусом. Это относится прежде всего к мужчинам, как правило, главным добытчикам в семье"*. Отсюда риторический вопрос: разве факт такого падения дохода не является реальностью для многих белорусских пенсионеров, вынужденных оставлять работу (зачастую не по своей воле)?

Именно такая реальность, вместе с низким уровнем пенсионных выплат большинства получателей, лежит в основе суждений вышеназванных ученых, других отечественных и зарубежных экспертов и специалистов, убежденных в необходимости принятия в Беларуси программы повышения пенсионного возраста. Думаю, читатели "Народной Воли" не обошли вниманием статью Петра Голосова, директора Социального информационного пенсионерского учреждения "Второе дыхание", ***"Пенсионный возраст надо повышать! Не откладывая..."*** ("НВ" 18.09.2012 г.). Приведу лишь две цитаты из этой публикации: (1) *"Повышение пенсионного возраста — всегда вынужденный, но при этом наиболее эффективный способ укрепления пенсионных систем...*; (2) "*...проблема пенсионного возраста уже не тема для досужих разговоров и неспешного обсуждения. Для наших пенсионеров — и нынешних, и будущих — это вопрос выживания в сложных социальных и экономических условиях"*.

И это действительно так. О необходимости отказа от завоевания социализма в виде самого низкого пенсионного возраста (пока он, как известно, сохраняется только в России и в Узбекистане), **в целях сохранения стабильности пенсионной системы и упреждения дальнейшего сползания к уравнительным пенсионным выплатам** во весь голос говорят ученые, известные экономисты и эксперты. Публикации по этой проблеме периодически появляются не только в независимых, но и в государственных СМИ.

## «Вопрос увеличения пенсионного возраста становится насущным»

Так, в октябрьском номере журнала "Белорусская думка" за 2012 год опубликована статья **"В условиях демографических вызовов".** Ее автор к.э.н., доцент В.С.Загорец (работает в Академии управления при президенте Республики Беларусь), называя такие демографические угрозы, как *депопуляция, старение населения, нерегулируемые миграционные процессы, деградация семьи,* отмечает: ***"Глубина демографических проблем в Беларуси достигла той степени, при которой они превращаются в угрозу национальной безопасности..."***. При этом автор, сфера научных интересов которого — проблемы формирования и использования трудовых ресурсов в стране, приводит весьма тревожные статистические данные о прогнозе численности потенциальных работников (будущих плательщиков взносов на пенсионное страхование) и лиц пенсионного возраста: "*Удельный вес населения в дотрудоспособном возрасте, составлявший по переписи 1959 года* ***31,3%,*** *(...) по переписи 2009-го составил только* ***15,9%****. Одновременно* ***за истекший период зеркально выросла доля лиц пенсионного возраста с 13,5%*** *в 1959 году* ***до*** *(...)* ***22,5%*** *— в 2009 году"*.

Особенно угрожающе выглядят следующий статистический ряд и прогнозы, сделанные ученым на его основе: *"****Если в 2001—2010 годах в трудоспособный возраст в Беларуси вступило 1414,2 тыс. человек, то в 2011—2020 годах эта цифра составит 907,2 тыс., или на 506,9 тыс. человек меньше.*** *Одновременно будет нарастать число людей, достигающих пенсионного возраста. (....)* ***количество лиц, которые достигнут ныне действующего пенсионного возраста в нынешнем десятилетии, увеличится по сравнению с предыдущим более чем на 40% (...) дефицит трудовых ресурсов уже в ближайшие годы может стать одним из основных факторов, препятствующих экономическому росту Беларуси".*** Естественно, что с учетом вышеназванных и других угроз не только для экономики, но и для пенсионной системы, включая всевозрастающий отток высококвалифицированных работников как в ближнее, так и в дальнее зарубежье в поисках достойного вознаграждения своего труда, В.С.Загорец не мог не сделать адекватный вывод: "***вопрос увеличения пенсионного возраста становится насущным".*** При этом необходимо отметить, что трудовая миграция, по мнению белорусских экономистов, один из ключевых вызовов для Беларуси в предстоящие годы.

Итак, с какой стороны ни подойти, в том числе с учетом сказанного в моей предыдущей статье (в частности, о самой высокой пенсионной нагрузке на экономику) и в публикациях других авторов, **иного реального ресурса, кроме как внутри самой системы пенсионного страхования, нет**. **Именно повышение возрастных критериев позволит**, с одной стороны, **упредить прогнозируемую несостоятельность страховой системы**, а с другой — **обеспечить более или менее приемлемые выплаты нетрудоспособным пенсионерам**, усилив зависимость их размеров от трудового вклада *(продолжительности страхового стажа и уровня индивидуального заработка, на который начислялись страховые взносы)*. Однако оппоненты, среди которых, как ни странно, не будущие, а уже состоявшиеся пенсионеры, выступая против такой меры, источник для своих более высоких пенсий видят в другом "огороде".

Так, последний из четверки оппонентов — В.Г.Доля, "осудив" статью, упрекает меня в том, что я умолчал *"о раздутости управленческого персонала, правоохранительных органов, армии, спецохраны и т.д."*. При этом он "просветленно" восклицает: *"Вот где наша нормальная пенсия!"* В унисон В.Г.Доле акценты Н.А.Липунова и В.Голубева, который, в частности, считает, что *"в Беларуси совершенно несправедливы размеры зарплат и пенсий у привилегированного сословия (чиновников, сотрудников МВД, КГБ, МЧС и др.). Они значительно выше, чем у остальных пенсионеров. Искусственно после выхода на пенсию граждан делят на две группы. Но делят не по заслугам, а по принадлежности к профессии..."*.

## Еще раз о пенсиях военнослужащих

Спору нет, с правоохранителями у нас перебор. Преувеличивается и опасность внешней агрессии, что влечет за собой соответствующие бюджетные затраты. Лично мне, гражданину синеокой Беларуси, трудно понять, почему наша страна с толерантным, сдержанным народом, с гимном, в котором поется: *"Мы, беларусы, мірныя людзі"*, является лидером по численности работников милиции на душу населения (в разы больше, чем в некоторых других странах). В то же время не могу согласиться с оппонентами о прямой связи данного факта, как и некоторых других отмеченных ими реалий с низким уровнем гражданских пенсий. Не вступая в полемику по этому и иным суждениям оппонентов, напомню структуру пенсионной системы Беларуси. Как и в подавляющем большинстве других цивилизованных государств, она состоит из двух основных организационно-правовых форм: *(1) государственного пенсионного страхования* (трудовые пенсии) и *(2) государственного пенсионного обеспечения* (пенсии военнослужащим, работникам МВД, КГБ, других силовых структур; ежемесячное денежное содержание отдельным категориям государственных служащих, избранникам и назначенцам обеих палат Национального собрания страны; пенсии за выслугу лет другим госслужащим; пенсии инвалидам-"чернобыльцам", за особые заслуги, социальные...).

Названные организационно-правовые формы регулируются разными актами законодательства, **финансируются из разных источников** и находятся в ведении разных министерств и ведомств. В отличие от трудовых пенсий, финансируемых за счет взносов на пенсионное страхование, уплачиваемых работодателями *(28% от фонда зарплаты)* и работниками *(1% индивидуальной зарплаты)* во внебюджетный Фонд социальной защиты населения Минтруда и соцзащиты (далее — Фонд), **пенсионное обеспечение граждан, относящихся ко второй составляющей пенсионной системы, осуществляется за счет средств государственного бюджета.** Бывшим военным и другим силовикам пенсии, как известно, назначаются в соответствующих министерствах и ведомствах под эгидой Министерства финансов, а не Минтруда и соцзащиты.

Для лучшего понимания нынешней реальности, полагаю, будет уместным сделать хотя бы схематичный экскурс в историю пенсионного дела и его организационно-правовых форм. На территории Российской империи, частью которой были земли современной Беларуси, государственные социальные гарантии появились во времена Петра I. Они предоставлялись в виде пенсий, кормовых денег, обеспечения землей и промыслами и распространялись только на военнослужащих (армейские офицеры и нижние чины), полицейских, государственных чиновников. Что же касается других граждан, то материальная и другая помощь впавшим в нужду могла оказываться лишь на началах благотворительности: церковью, частными организациями. С течением времени к такого рода помощи, опять-таки на благотворительных началах, подключилось государство — через светские территориальные структуры. И в дальнейшем, в период развития капитализма, а затем и в советский период, приоритетными в государственном социальном обеспечении были защитники

